ваколіцах Даўг. Камітэт злажыў на рукі сваей упаўнамочэнай п. Ф. Маліноўскай аднаразова 500 марак, за каторые было куплено трохі бялізны і адзежы для дзяцей і прадукты (хлеб). Апрыч гэтых грошы п. Маліноўская, каторай у яе працы памагалі п.п. Гэрбачэўская і Нівінская, атрымлівала на туюж мэту ў розным часі невялікую падмогу ад Польскаго Камітэту.

У канцы чэрвеня Камітэт наладзіў у ваколіцах Вільні дзьве ахронкі для бедных дзяцей на вёсцы: „Нашу Хату“ ў Чорным Боры на 70 дзяцей і 7 сталых і ахронку ў Кочанах на 20 дзяцей і 9 сталых. Пачатковы копт устройства і высылкі туды дзяцей — М. 384,10.

С прычыны таго, што часць школьнікоў на вёску не паехала і астаецца ў Вільні, ім і ў часі летніх вакацій выдаюцца тут безплатные абеды. Разам з абедамі для сталых, дармовых абедаў Камітэт выдае кожын дзень:

| | |
|---|---|
| у Беларускай Страўні | — 95 |
| бонаў да іншых стравень | — 33 |
| разам | —128 |

На організацію беларускаго аддзелу на Выстаўцы Віленскіх Работных Дамоў і варштатоў пры школах Камітэт асыгнаваў Выставочнай Камісіі крэдыт да 300 м. За час справоздачы беларускі аддзел зрабіў абароту на М. 7123,91, вярнуў Камітэту доўг 300 м. і цяпер мае тавароў і сырых матэр'ялоў разам з інвэнтаром, адлічыўшы некаторые непакрытые ешчэ прыватные даўгі, на М. 1327,00.

Утрыманьне Камітэту не каштавало нічога.

Наагул, выдаткі Камітэту на ўсё вышэй паказанае былі:

| | |
|---|---|
| на выдачу 52.657 безплатных абедаў | М. 7280,51 |
| помач грашмі ў Вільні | — 161,25 |
| помач высяленцам с фронту на вёсцы | — 500,00 |
| абутак для дзяцей | — 721,31 |
| надзвычайные выдаткі | — 273,37 |
| устройство дзьвех ахронак на вёсцы і на высылку туды дзяцей | — 384,10 |
| утрыманьне 5 школ ахронак у Вільні | — 8.216,31 |
| Разам | М. 17.464,85 |

Гэтые выдаткі пакрыты з даходаў:

| | |
|---|---|
| Сальдо на 22.VI. 1916 | М. 1,70 |
| прыватных ахвяр на школы | — 2.452,82 |
| месячная падмога на утрыманьне Зьвярынецкай школы (за 8 месяцоў × 95 мар.) | — 760,00 |
| „ „ Лукішскай школы (за 8 мес. × 120 м.) | — 960,00 |
| з дабрачынных прэдпрыемств | — 363,25 |
| с Камітэту ў Вэвэй: | |
| праз Verwaltung | — 4.000,00 |
| праз Польскі Камітэт | — 4.879,00 |
| пазычэно ад іншых установ | — 600,00 |
| ад местоваго ураду (13 мес. па 300 м.) на абеды для школьных дзяцей | — 3.900,00 |
| Разам | М. 17.916,77 |

Сальдо на 1 жніўня 1917 г. М. 451,92.

Склад Камітэту за час справоздачы быў гэткі: Антон Луцкевіч (маршалак), Юльянна Мэнкэ (скарбнік), Вацлав Ластоўскі (сэкрэтар), Іван Луцкевіч, Язэп Ліцкевіч. С прычыны выхаду с камітэту п. В. Ластоўскаго перад сазывам агульнаго сходу членоў Т-ва мейсцо яго заняў першы кандыдат п. Язэп Салавей.

Беларускімі школамі і вучыцельскімі курсамі кіравала Школьная Камісія, зложэная с членоў камітэту і членоў Т-ва пад маршалкоўствам А. Луцкевіча.

Варштатамі і беларускім аддзелам на выстаўцы—выставочная камісія, зложэная с трох членоў Камітэту—п. І. Луцкевіча, В. Ластоўскаго і Ю. Мэнкэ, пад бліжэйшым кіраўніцтвам п. Ю. Мэнкэ.

Дзеля організацыі народных стравень была створэна так сама спэцыяльная камісія, зложэная с членоў Камітэту А. Луцкевіча, І. Луцкевіча і членоў Т-ва Ф Вішнеўскаго, М. Лойко і Корзуна пад кіраўніцтвам маршалка Камітэту А. Луцкевіча. На кіраўніка страўні быу запрошэн п. Ф. Вішнеўскі.

У склад рэвізыйнай камісіі ўходзілі: п.п. Д. Семашко, Ст. Корфф і П. Вонсовіч.

Агульны сход на просьбу Камітэту пастанавіў павялічыць склад Камітэту да 7 асоб с правам далейшай кооптацыі паводлуг думкі Камітэту і склад рэвізыйнай камісіі—да 5 асоб. У Камітэт выбраны: п. А. Рачкоўская і Ф. Вішнеўскі і на канцыдата—А. Глеб; у рэвізыйную камісію—п.п. Л. Лойко і К. Юрэвіч.

На прэдлажэньне маршалка сход высказаў сваю асаблівую падзяку за энэргічную працу п. п. Юльянне Мэнкэ, Фаб'яну Вішнеўскаму і Міхалу Лойко.

## У Вільні і ваколіцах.

× **«Lietuvos Aidas»** («Эхо Літвы») Пад гэткім загалоўкам ад верасьня пачне выхадзіць у Вільні тры разы ў тыдзень літоўская газета.

× **У Беларускім Клюбе** ў суботу і нядзелю — чародные танцавальные вечарынкі.

× **Выстаўка каронак** з Бруксэлі адкрыта на зусім кароткі час пры выстаўцы Віленскіх Дамоў Працы.

× **Збор медзі.** Гаспадары і упраўляючые дамамі пры Віленскай, Падвальнай, Дабрачыннай, Гарбарскай, Татарскай, Сьв.-Юрскай, Мастовай, Ганчарскай, Газовай, Ягелёнскай, І і ІІ Сьв.-Юрскім завулку, на моцы загаду Stadthauptmann'a, павінны здаць медзь, якая знаходзіцца ў іх дамох (клямкі, ваконные прыборы і т. д.) не пазьней 14 жніўня, Домініканская 3, пакой 90.

× **Алей с семі акацыі.** Цяпер, калі алей — гэткі рэдкі і дарагі, варта ведаць, што яго можна дабываць с семі акацыі. Выціснутае семя йдзе на корм скаціне.

× **Прапаў бяз весьці** 6 тыднёў таму назад дзесяці-гадовы Казімір Бароўскі з дому бацькі свайго, Рашынская 65. Весткі аб ім прынімае крымінальная паліцыя, Домініканская 1, пакой 89.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 5—6 | + 23,5° | + 10,5° |
| 6—7 | + 20,5° | + 9° |
| 7—8 | + 19° | + 13° |

## З усяго Краю.

### «Нямецкіе рублі».

31 ліпня у абароці было «нямецкіх рублёў» на 91.160.232 руб. У тым ліку бумажкамі па 3 руб. і буйнейшымі было на 73.490.128 руб., а бумажкамі ад 20 кап. да 1 рубля — на 17.670.104 руб. Бумажэк па 20 кап. — на 3.939 996 руб.

### Штрафы за пажары.

За неасьцярожнасць з агнём, ад каторай узняліся пажары, зьнішчыўшые ураджай, наложэны ў ваколіцах Гродні гэткіе штрафы на ніжэйпісаные грамады:

| | | |
|---|---|---|
| Філевічы, васіліск. пав. | — 100 м. |
| Рэзы, плянцк. | „ | — 400 „ |
| Рэпнікі, лідзк. | „ | — 500 „ |
| Старые Друскенікі, радун. | — 100 „ |
| Одвернікі, радунск. пав. | — 110 „ |
| Любарты, | „ „ | — 110 „ |

### Почты ў Обэр Ост.

Паводлуг урадоваго спіску, нямецкіх почт у нашым краю ёсць 38.

---

СЬВІСЛОЧ. Паўтарыцельны курс у сьвіслочскай беларускай вучыцельскай сэмінарыі канчаецца 28 жніўня.

Новы курс дзеля падгатоўкі беларускіх народных вучыцелёў пачынаецца 1 верасьня. Запісывацца трэба у Kreisschulinspektor'a (паветоваго школьнаго інспэктара) загадзя.

ГРОДНЯ. Ад 8 да 16 жніўня упраўленьне места прадае дровы на апал на зіму з дастаўкай да хаты па 165 м. за кубічную сажэнь. Заказваць трэба ў аддзелі спажыўных спраў (Lebensmittelabteilung) пры Stadthauptmann'e.

ГРОДНЯ. Упраўленьне местоваго і сельскаго гродзенскаго павету пераносяць у дом быўшаго расейскаго селянскаго банку на рагу Палявой і Софійскай вуліц. Мейсцовы тарговы аддзел і лёмбард астануцца ў ратушу.

Ня гледзячы на ўсе загады аб найвышэйшых цэнах, тутэйшые мясьнікі бяруць па 3 м. за фунт кошэрнаго мяса.

БЕЛАСТОК. Тутэйшы вечар у злучэных дабрачынных таварыств

# Выпісы з беларускай літэратуры.

## Аддзел I.

### Дапіскі да 1-го аддзелу.

**Літэратурная беларуская мова XIII—XVIII сталецьця** развілася са стараславянскай, прынесенай на Беларусь разам с хрысьціянскай граматнасьцю (X век). Прасьвета на Беларусь у тые часы прыходзіла с палуднёвай Славяншчыны (Боўгарыі і Сэрбіі) і Візанцыі, дзеля гэтаго наша літэратура да XIII сталецьця мае *візантыйска-боўгарскі і царкоўны* характар, бо агранічывалася толькі кнігамі царкоўнымі і моральна рэлігійнымі.

Ад XIII сталецьця ў мёртвую і малазразумелую царкоўна-славяншчыну пачынае памалу пранікаць жывая народная мова: *агульна-руская*. Пробкі гэткай агульнарускай мовы з беларускімі асобнасьцямі бачым у „Смаленскай тарговай праўдзе“ і умовах Смаленскіх, Вітэбскіх і Полацкіх князёў с крыжакамі.

У XIV сталецьці жывая беларуская мова шпарка выціскае царкоўна-славяншчыну і ўходзіць у агульны ужытак, як літэратурная мова Беларускаго народу і як дзяржаўная мова Вялікаго Княства Літоўскаго. Дзеля таго, што беларускі элемэнт культурна і чысьленна перэважываў элемэнт літоўскі ва ўсей Літоўскай дзержаві мова беларуская сталася мовай урадовай, мовай сэймоў, княжаго двара, права, суда і школы. Ад XIV да першай чверці XVII сталецьця беларуская літэратура перэжывала час расцьвету, і з гэтаго часу маемо мы вельмі багатую і рожнародную літэратуру.

Ад другой палавіны XVII і да XIX сталецьця беларуская літэратура перэжывае крызыс: пачынае падаць і занікаць, уступаючы мейсцо лацінскай і польскай літэратуры і асьвеце.

**„Мука Ісуса Хрыста“ і „Повесць а трох королех“.** Творы належачые да беларускай каталіцкай літэратуры XV века. Арыгіналы пісаны славянскімі літэрамі.

**Беларускіе летапісі.** Дагэтуль вядомы 16 спіскоў беларускіх летапісей: 1. Супрасльскі, 2. Уваpоўскі, 3. Акадэмічны, 4. Кодэкс Красінскіх, 5. Віленскі спісак, 6. Дуброўскі, 7. Другі спісак Красінскіх, 8. Лапінскі спісак, 9. Спісак Архэолёгічнаго Таварыства у Пецярбурзі, 10. Спісак Рачынскіх, 11. Еврэіноўскі, 12. Дуброўскаго 2-гі спісак, 13. Ольшэўскі спісак, 14—15. Спісак Быхоўца, 16. Пахвала Вітаўту.

Усе летапісі Вялікаго Кн. Літоўскаго пісаны па беларуску мовай пекнай і чыстай, стылям летапісным, паважным, — што ўсё ўзятае разам паказывае на высокае развіцьце беларускай літэратуры ў даўные часы.

**Статут Літоўскі.** Гэта збор праў, якімі кіравалося В. Кн. Літоўска-Беларускае, а заразам і констытуцыя гэтай дзержавы. Вядомы тры рэдакцыі „Статута“: 1529, 1566 і 1588. „Статут“ 1588 году друкаваўся ў Вільні у друкарні Мамонічоў.

**„О дворе турского султана“.** Напісаў гэты твор польскі літэратар Старовольскі, але у свой век пісаньня яго былі вельмі ахвотна чытаны і у нас, аб чым сьведчаць чысьленые, дайшоўшые да цяперашніх часоў, перэклады. Пададзен тут гэты адрывак дзеля пекнай мовы перэкладу.

**Повесць аб Варлааме і Іоасафе.** Тэкст гэтай духоўнай повесьці (романсу) запазычэн з Індзіі, належыць да найбольш чытаных у даўные векі у нас повесьцей. Яе пекная і гладкая беларуская мова і дагэтуль забвараживае красой душу.

**Ажо, аже**—калі, як, а як-бы.

**Ажбы**—каб, штоб.

**Берковск**—беркавец. Цяперашні беркавец мае 10 пудоў.

**Бых**—каб я, абы я, бы.

**Частіна**—густая „частая“ тканіна.

**Частокроць**—вельмі часта.

**Дело**—с польск. гармата.

**Долгая**—названьне смаленскай манэты.

**Дочасны**—часовы, прамінаючый.

**Дуброва**—дубовы лес.

**Гадалі**—думалі, раіліся.

**Ганза**—старагоцкае слово: саюз, пад якім ад XIII да XVII ст. разумелі тарговае таварыство нямец-кіх купцоў дзеля ўзаемнай помачы і падтрыманьня. Ганзэйскі саюз у даўные часы мел вялікае тарговае і палітычнае значэньне. Ганзэйскіе купцы мелі свае склады у Смаленску, Полацку і Вітэбску.

**Гоцкі берэг** — гэтак называлі даўней у нас востраў Готляндію, слаўны тарговым рухам, а жыхароў гэтаго вострава звалі „готамі“. Пазьней пад словам „гоцкі берэг“ разумелі Нямеччыну і пад словам „гот“ усякаго немца.

**Гость** — чужаземны купец; адгэтуль тагровая дарога у насназываецца „гасьцінец“, а мейсцы дзе адбываліся торжышчы зваліся „пагостамі“.

**Горазд**—добра.

**Гривна**—сперша проста абруч

